**Год выданьня 66. № 619, Люты - Сакавік 2016 г.**

***Жыве Беларусь!***



# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Postal address:* **P.O. Box 456 New York, NY 10025 USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Шаноўныя чытачы!***

Перад вамі другі ў бягучым годзе выпуск нашай газэты. Ён выходзіць у сьвет напярэдадні вялікага нацыянальнага сьвята – Дня Волі. Сёлета мы будзем адзначаць ужо 98-я ўгодкі ад той лёсавызначальнай для нашай краіны даты – дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Гэтай тэмаю мы адчыняем наш чарговы нумар.

Праз газэту мы запрашаем нашых чытачоў і ўсіх беларусаў Нью-Ёрку і ваколіцаў урачыста адсьвяткаваць разам Дзень Волі ў Беларускім цэнтры на Атлантык Авэню 401 у Брукліне. Тым самым мы падтрымаем ідэю дзяржаўнай незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны, якая сёньня знаходзіцца перад рэальнай пагрозаю ў сувязі з *агрэсіўнай палітыкаю расейскіх уладаў* і падпарадкаванага ім лукашэнкаўскага дыктатрскага рэжыму. Мы далёка ад Радзімы, але мы можам і павінны падтрымліваць і дапамагаць ёй рознымі шляхамі стаць сапраўды незалежнай і дэмакратычнаю краінаю.

На старонках газэты вы знойдзеце шмат іншай цікавай і патрэбнай вам інфармацыі. Прыемна адзначыць, што сярод аўтараў гэтага нумару зьявіліся і прадстаўнікі малодшага пакаленьня эміграцыі – Натальля Федарэнка і Сьвятлана Казачок. Спадзяемся, што і іншыя маладыя людзі возьмуць з іх прыклад і будуць не толькі чытачамі, але і сааўтарамі нашага выданьня.

***Рэдакцыя.***

# Зварот да Беларускага Народу

## з нагоды 98-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

### Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы





***Дарагія Суродзічы!***

98 гадоў таму – ранічкай 25 сакавіка 1918 году – на нашай зямлі адбыўся цуд: паняволены, зьнямоžаны вайной беларускі народ заявіў, што "ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай вольнай дзяржавай".

Сёньня Беларусь жыве!

Жыве, дзякуючы рашучасьці нашых продкаў у 1918 годзе, але таксама дзякуючы жыцьцяздольнасьці кожнага з нас!

Дваццатае стагодзьдзе было адным з найстрашнейшых у гісторыі чалавецтва, асабліва моцна пацярпеў наш край. Мы вытрымалі дзьве чужыя вайны, шматлікія спробы генацыду нашага народу – высылкі, расстрэлы, дыктатуры, выгнаньне трацінy нашага народу ў замежжа. Чужакі нішчылі нашую прыгожую мову, нашую шматвяковую культуру, нашую веру, нашае пачуцьцё годнасьці. Нягледзячы на ўсё гэта, мы выжылі. Мы жывём, і жыве Беларусь!

Дарагія суродзічы, прыпамінаю цяжкія часы, каб вы не зьнеахвоціліся. Калі мы часам робімся больш асьцярожнымі, ці памяркоўнымі, гэта таму, што адчуваем, што нам трэба іх перажыць.

Сёньня, аднак, хачу яшчэ раз выказаць вам сваю веру, што мы дасягнем тае лепшай будучыні, пра якую мы марым. Пацьверджаньне нашай моцы бачым у зусім нядаўняй гісторыі – калі 25 жніўня 1991 году беларусы здолелі скарыстаць шанец і аднавілі Незалежнасьць, зьдзейсьніўшы мару пакаленьняў. І вось ужо чвэрць стагодзьдзя наш край незалежны – хаця ўсё яшчэ не свабодны.

Але прыйдзе час, калі будзем сапраўды той незалежнай, вольнай дзяржавай, пра якую гаварылі нашыя Дзяды, час, калі наш край далучыцца да сям'і заможных і паважаных эўрапейскіх народаў. Мы даказалі, што мы вартыя гэтай павагі.

Жадаю вам сёньня мужнасьці і вытрываласьці. Мы яшчэ пабачымся у вольнай Беларусі. Моцна веру ў гэта і хачу, каб кожны з вас у гэта верыў.

***Жыве Беларусь!***

*Сакавік 2016*

**Шаноўныя сябры, беларусы ў Амэрыцы, на Бацькаўшчыне і па цэлым сьвеце!**

**Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуем вас з надыходзячым Днём Волі! Выказваем надзею, што гэтае наша вялікае нацыянальнае сьвята будзе сьвяткавацца ўсімі беларусамі сьвету, дзе б яны не жылі, разам з нашай вольнаю, незалежнаю, дэмакратычнаю Бацькаўшчынаю.**

## Сьвяткуем Дзень Волі 2016

**ад імя Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), Бруклінскага аддзелу БАЗА, Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, Парафіі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью-Ёрку, сардэчна запрашаем амэрыканскіх беларусаў на ўрачыстую імпрэзу з нагоды 98-угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году, якая адбудзецца ў нядзелю, 3 красавіка 2016 году ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.**

**Кошт уваходнага квітка - 30 даляраў, для дзяцей - уваход свабодны**

***Жадаючыя могуць падаць ахвяраваньні на Дар Сакавіка, які штогод зьбіраюцца скарбнікам Рады БНР***

**Адрас: 401 Atlantic Avenue, Brooklyn**
**даезд: трэйны 2, 3, 4, 5, Q да станцыі Atlantic Av-Barclays Ctr трэйны A, C, G да станцыі Hoyt-Schermerhorn трэйн F да станцыі Bergen St.**

**У праграме сьвяткаваньня:**

*Багаслужба ў Саборы, Малітва за беларускі народ - **10:00 am***
*Сьвяточны абед - **12:00***
*Урачыстае адкрыцьцё імпрэзы, афіцыйная частка: старонкі гісторыі, выступы, прывітаньні, віншаваньні - **1:00 pm***

**Канцэртная праграма:** бярэ ўдзел *знакамітыя беларускі **ансамбль Валянціны Пархоменкі - Казакоў***
У якасьці ганаровага госьця з Беларусі будзе прысутны *паэт і палітычны дзеяч* ***Уладзімір Някляеў***.

# 270-ЫЯ ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ ТАДЭВУША КАСЬЦЮШКІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

28 лютага 2016 у грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Нью-Ёрку прайшла імпрэза, прысьвечаная 270-м угодкам ад нараджэньня Тадэвуша Касьцюшкі. Рыхтавала сьвята маладзёвая група Бруклінскага аддзелу БАЗА пад рэжысёрскім кіраўніцтвам сяброўкі Управы аддзелу Натальлі Федарэнкі.

Сьвяточную імпрэзу адчыніў Барыс Здольнікаў, які вельмі пранікнёна выконваў ролю Тадэвуша Касьцюшкі. Апрануты ў нацыянальны строй, ён прачытаў адозву Касьцюшкі да ваяраў.

Сп. Зянон Пазьняк падрабязна распавёў прысутным пра жыцьцё Тадэвуша Касьцюшкі і прывеў шмат гістарычных фактаў, якія яшчэ раз даказваюць, што Тадэвуш Касьцюшка быў сапраўдным беларускім героем, дэмакратам і патрыётам Бацькаўшчыны. Касьцюшка ўнёс неймаверны ўклад у гісторыю Беларусі, Польшчы і Амерыкі, нездарма ў гэтых краінах існуюць шматлікія мясьціны, названыя ў яго гонар.

Было адзначана, што існуе шмат твораў прысьвечаных Тадэвушу Касьцюшку, што сьведчыць пра тое, што наш народ заўсёды ведаў, паважаў і захоўваў памяць пра героя. Як прыклад гэтаму, Сьвятлана Казачок задэклямавала верш сучаснага пісьменьніка Уладзімера Гардзейкі "Ружа Касьцюшкі", галоўным зьместам якога ёсьць ідэя волі і незалежнасьці Беларусі.

Вольга Талатынік прадэманстравала на экране відэа пра сядзібу Касьцюшкі ў Беларусі і закранула пытаньне пра тое, што гэтаму мемарыяльнаму месцу не надаецца належная ўвага. Прысутныя выказалі самую шчырую зацікаўленасьць наконт будучыньні сядзібы. Было приемна, што ёсьць глыбокае разуменьне існуючых праблемаў і гатовасьць самім не стаяць у баку.

Імпрэза атрымалася ўражлівая і прысутныя вельмі актыўна абмяркоўвалі, задавалі пытаньні. Прыемна было бачыць, што тэма для моладзі важная. На завяршэньне ўсім захацелася зрабіць памятнае агульнае фота, каб застаўся добры ўспамін.


На дзень нараджэньня 4 лютага беларусы ўсклалі кветкі да помніка Тадэвушу Касьцюшку




**Сьвятлана Казачок.**

# Акцыя ў Нью Ёрку
## ў падтрымку Надзеі Саўчанкі




***9 сакавіка 2016 сябры Бруклінскага аддзелу БАЗА прынялі ўдзел у акцыі ў падтрымку Надзеі Саўчанка, што зарганізаваў Украінскі кангрэсавы камітэт Амерыкі.***

Гэта акцыя пратэсту праводзілася сумесна з іншымі нацыянальнымі суполкамі ў Нью Ёрку, якія аб'ядналіся разам, каб пратэставаць супраць агрэсіўнай палітыкі Пуціна, у падтрымку Украіны і украінскай змагаркі Надзеі Саўчанка, якую беспадстаўна судзяць у Расеі.

Мы лічылі патрэбным падтрымаць нашых суседзяў і падзяліць з імі гэты смутак. Стараліся мы як найбольш выразна прадставіць нашу прысутнасьць на акцыі, разгарнулі вялікі бел-чырвона-белы сьцяг, зрабілі плякат з Пагоняю і надпісам "Беларусь". Так што абыйсьці ўвагаю нашу групу было амаль немагчыма, шмат людзей падыходзілі, пыталіся, рабілі фота.

Цяпер настаў вырашальны час у гісторыі Украіны і нашай Беларусі таксама. Як украінцы, так і беларусы па цэлым сьвеце павінны пратэставаць, каб перапыніць разам расейскую агрэсію.

***Сьвятлана Казачок***




# Акцыя ў Вашынгтоне



Як паведаміў старшыня Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне Вячаслаў Бортнік, беларусы далучыліся да акцыі, праведзенай 9 сакавіка каля расейскай амбасады ў Вашынгтоне з мэтаю выказаць патрабаваньне аб вызваленьні Надзеі Саўчанкі.

**Паведамленьне Прэсавай службы Вашынгтонскага гуртка БАЗА.**

*30 студзеня ў амэрыканскай сталіцы адбылося справаздачна-выбарчае паседжаньне Вашынгтонскага гуртка БАЗА. Кансэнсусам было абранае новае кіраўніцтва Гуртка ў складзе старшыні Вячаслава Бортніка, намесьніцы старшыні Алесі Кіпель, скарбнічкі Алесі Сёмухі, сакратаркі Натальлі Дэніэлз. Таксама былі абраныя дырэктар па стратэгіі і сувязях з грамадскасьцю Валер Кавалеўскі, каардынатарка па культуры Вольга Рошчанка, моладзевы каардынатар Яўген Барысевіч ды каардынатар па міжнародных сувязях Тацьцяна Процька.*

# Навіны Вашынгтонскага гуртка БАЗА

*На паседжаньні былі зацьверджаны справаздача аб дзейнасьці ды фінансавая справаздача за 2015 год, прапанаваныя пляны на 2016 год. Ізноў было ўзьнятае пытаньне аб пераўтварэньні Вашынгтонскага гуртка БАЗА ў аддзел. Большасьць прысутных падтрымала ініцыятыву. Па сваёй структуры, абсягу дзейнасьці, колькасьці наяўных сябраў Гурток адпавядае ўсім патрабаваньням да Аддзела БАЗА. Было прынятае рашэньне на наступным сходзе Гуртка галасаваньнем зацьвердзіць пераход у статус аддзела й падаць неабходныя дакуманты да разгляду Галоўнай Управай БАЗА.*

*Вытрымкі са справаздачы аб дзейнасьці Вашынгтонскага гуртка БАЗА за 2015 год:*

## Праваабарончыя акцыі

**28 студзеня 2015:** Сустрэча з супрацоўнікамі Freedom House, каб абмеркаваць сумесныя акцыі і мерапрыемствы.

**25 лютага 2015:** Вашынгтонскі гурток БАЗА накіраваў сумесны ліст з Фундацыяй "Мы Памятаем" і Amnesty International USA да Эрыка Рубіна, намесьніка памочніка дзяржсакратара ЗША, што датычыцца зьнікненьняў у Беларусі.

**25 сакавіка 2015:** Дзень Волі.

Вашынгтонскі гурток БАЗА сумесна з Freedom House арганізаваў сімпозіум "Беларусь напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў: статус Акта аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі 2011 года". Выступоўцамі былі д-р Роберт Герман з Freedom House, амбасадар Майкл Козак, Сціў Нікс з Міжнароднага Рэспубліканскага Інстытуту і Валер Кавалеўскі. Мадэратар: Арэст Дзейчакіўскі, Гэльсінская камісія ЗША.

Сябры Гуртка ўсклалі бел-чырвона-белыя кветкі да Мемарыялу ахвяраў камунізму (разам з балтыйскімі арганізацыямі).

Сябры Гуртка шырока распаўсюдзілі відэа-зварот на Дзень Волі Марыны Адамовічай, жонкі Міколы Статкевіча. Вячаслаў Бортнік сустракаўся з Марынаю ў Менску ў лютым.

Сьвяточныя паштоўкі адпраўленыя прыхільнікам БАЗА ў ЗША і ўсім палітычным зьняволеным у Беларусі.

**8 красавіка 2015:** Сябры Гуртка сустрэліся з Джудзіт Робінсан, USAID, каб абмеркаваць правы чалавека і праблемы разьвіцця ў Беларусі.

**29 красавіка 2015:** Сябры Гуртка сустрэліся з Эрыкам Рубіным, намесьнікам памочніка дзяржсакратара ЗША, каб абмеркаваць праблемы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі.

**Травень 2015:** Сябры Гуртка кансультавалі беларускі Вольны Тэатр наконт стратэгічных мэтаў да іх кампаніі паштовак.

**19 траўня 2015:** Вячаслаў Бортнік сустрэўся зь Ямайскай зоркай рэгі Этанай на прыняцьці ў Вашынгтоне. Яна падпісала паштоўку са словамі падтрымкі да Міколы Статкевіча. Падзея шырока асьвятлялася ў беларускіх незалежных СМІ.

**Жнівень 2015:** Вячаслаў Бортнік дапамог скласьці лісты Галоўнай Управы да эўрапейскіх лідэраў з пазовам не адмяняць санкцыі і да кангрэсмэнаў ЗША, якія наведалі Беларусь на пачатку месяца.

**22 жніўня 2015:** Лукашэнка вызваліў палітычных зьняволеных. Сябры Гуртка працавалі дзеля іх вызваленьне цягам некалькіх гадоў.

**16 верасня 2015:** Вашынгтонскі гурток БАЗА падрыхтаваў заяву да 16-й гадавіны зьнікненьняў у Беларусі, сумесна з Фундацыяй "Мы Памятаем" і Amnesty International USA.

**Верасень 2015:** Валер Кавалеўскі дапамог скласьці заяву Галоўнай Управы адносна намера Расеі стварыць ваенную авіябазу ў Беларусі.

**24-25 верасня 2015:** Ірына Красоўская ўзяла ўдзел у мерапрыемстве "Зьнікненьні ў Беларусі" падчас штогадовай нарады АБСЕ ў Варшаве.

**Кастрычнік 2015:** Вячаслаў Бортнік быў пазбаўлены права назіраць прэзідэнцкія выбары ў амбасадзе Беларусі ў Вашынгтоне.

**Лістапад 2015:** Валер Кавалеўскі дапамог скласьці заяву Галоўнай Управы з пратэстам супраць палёгкі санкцыяў у адносінах да аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

**18 сьнежня 2015:** Алеся Кіпель і Вячаслаў Бортнік узялі ўдзел у Круглым стале ў Белым доме наконт міжнароднага крызысу з уцекачамі.

**Сьнежань 2015:** Сьвяточныя паштоўкі адпраўленыя прыхільнікам БАЗА ў ЗША.

## Ўдзел у мерапрыемствах беларускай дыяспары:

**20 чэрвеня 2015:** Вячаслаў Бортнік выконваў абавязкі старшыні Кангрэса БАЗА і быў абраны намесьнікам старшыні Галоўнай Управы.

**19 ліпеня 2015:** Сябры Гуртка павіншавалі са 100-годдзем патрыярха беларускай дыяспары Антона Шукелайца.

**3-4 кастрычніка 2015:** Вячаслаў Бортнік узяў удзел у 5-м Міжнародным кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі ў Каўнасе (Літва).

## Удзел у мерапрыемствах партнэраў:

**29 студзеня 2015:** Сябры Гуртка бралі ўдзел у сімпозіуме "Беларусь - тады, цяпер і ў будучыні", арганізаваным Цэнтрам беларускіх дасьледаваньняў і German Marshall Fund.

**4 сакавіка 2015:** Цэнтральна- і Усходнеэўрапейская кааліцыя (CEEC), у якой БАЗА зьяўляецца вельмі актыўным сябрам, атрымала ўзнагароду "Сябар Украіны" на прыняцьці ў амбасадзе Літвы. Алеся Кіпель прыняла ўзнагароду ад імя CEEC.

**16 красавіка 2015:** У складзе дэлегацыі CEEC Алеся Кіпель і Вячаслаў Бортнік сустрэліся з прадстаўнікамі Кангрэса ЗША для абмеркаваньня праблемы парушэньня правоў чалавека ў рэгіёне (перавашна ў Беларусі, Расеі ды Украіне).

**6 траўня 2015:** Сябры Гуртка бралі ўдзел у кінапаказе і сустрэчы з Франакам Вячоркай у Freedom House.

**Травень 2015:** Сябры Гуртка ахвяравалі сродкі ($250) на падтрымку праграмы Freedom House па Беларусі.

**1 і 2 чэрвеня 2015:** Сябра Гуртка ўзяў удзел у сьвяткаваньні месяца іміграантаў у Кангрэсе ЗША й Белым доме.

**12 чэрвеня 2015:** Сябры Гуртка ўзялі ўдзел у штогадовым урачыстым ускладаньні кветак да Мемарыялу ахвяраў камунізму разам з дэлегацыямі амбасадаў і недзяржаўных арганізацыяў.

**Ліпень 2015:** Сябры Гуртка бралі ўдзел у 5-ым Міжнародным дзіцячым фестывалі культуры ў Вашынгтоне, каб падтрымаць беларускіх мастакоў.

**18 кастрычніка і 6 лістапада 2015:** Ірына Красоўская брала ўдзел у мерапрыемствах, прымеркаваных да 10-годдзя Беларускага вольнага тэатра ў Лёндане.

**17 і 19 лістапада 2015:** Сябры Гуртка бралі ўдзел у сустрэчах з Алесем Бяляцкім у German Marshall Fund і Freedom House. Вячаслаў Бортнік дапамагаў Алесю зь перакладам.

**Цягам 2015:** Сябры Гуртка бралі ўдзел у пратэстах перад амбасадай Расеі і будынкам тэлеканала Russia Today ў Вашынгтоне.

**Цягам 2015:** Сябры Гуртка бралі ўдзел (а часам выступалі з прамовамі) у акцыях салідарнасьці з Украінай (у тым ліку ў сьвяткаваньні 75-годдзя Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі й цырымоніі адкрыцьця Мемарыялу Галадамора 7 лістапада). Алеся Кіпель асабіста сустракалася зь міністрам фінансаў Украіны Натальлей Ярэська. Сябры гуртка бралі ўдзел у Працоўнай групе па Украіне.

## Культурныя і сацыяльныя мерапрыемствы

**1 лютага 2015:** Сябры Гуртка арганізавалі прэзентацыю кнігі "Septam" беларускага пісьменніка Віталя Воранава ў публічнай бібліятэцы Вашынгтона.

**19 красавіка 2015:** Тацьцяна Процька прачытала лекцыю пра гісторыю і сёняшні дзень праваслаўнай царквы ў Беларусі.

**Травень 2015:** Сябры Гуртка прысутнічалі на паказах беларускага Вольнага тэатра ў Нью-Ёрку.

**Ліпень 2015:** Вячаслаў Бортнік арганізаваў сустрэчу з кіраўнічкай Чыкагскага гуртка БАЗА Жанай Чарняўскай.

**Лістапад 2015:** Алеся Кіпель арганізавала прыняцьцё ў гонар беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

**Цягам 2015:** Сябры Гуртка працавалі над стварэньнем віртуальнай бібліятэкі.

“Ніва” не толькі для беларусаў Польшчы, але і для ўсіх беларусаў свету — унікальная з’ява. “Ніва” — гэта пачуццё беларускай годнасці і гісторыя цэлай Беларусі. . Бо на старонках яе друкавалі свае творы не толькі беларусы з Польшчы, але і сотні беларусаў з іншых краінаў сьвету, у тым ліку і з Беларусі. Беларускія літаратары, гісторыкі, палітыкі, дзеячы культуры — усе, хто наведваў “Ніву”, мог вольна выказаць на яе старонках свае ўражаньні, думкі і прапановы.

60-гадовы шлях быў для “Нівы” няпростым. Газета зазнала і забарону распаўсюду ў Беларусі, і судовы працэс супраць сябраў Праграмнай рады тыднёвіка, і фінансавыя ды іншыя складанасці... Тым не менш, нягледзячы на ўсе цяжкасці, газета здолела заха-

***Тыднёвіку “Ніва”, што выдаецца ў Беластоку, 4 сакавіка споўнілася 60 гадоў. Газета была заснавана ў 1956 годзе Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы. Газэта стала важным чыньнікам гуртаваньня беларускага насельніцтва ў раёнах, якія былі самавольна перададзены Сталіным у склад Польшчы ў 1944 годзе.***

# 60-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

## старэйшай беларускай газэты ў Польшчы


Яўген Вапа

вацца, дзякуючы адданай працы рэдактараў і супрацоўнікаў.

Сёньняшні галоўны рэдактар "Нівы" Яўген Вапа ў інтэрвію Радыё Свабода з нагоды юбілею сказаў:

"Для мяне, як чалавека, які нарадзіўся ў маленькай пушчанскай вёсцы на польска-беларускай мяжы, для маіх дзядоў і бацькоў, для ўсіх беларусаў Беласточчыны «Ніва» была і ёсьць адным з важных падмуркаў нашай нацыянальнай тоеснасьці ў Польшчы. Мне неяк падумалася, як можна коратка расшыфраваць абрэвіятуру слова «Ніва», і я прыдумаў: «НІВА» — «Наша І Ваша Апора». На старонках тыднёвіка мы засяроджваемся менавіта на нашым беларускім пункце гледжаньня. Мы таксама стараемся наблізіць да нашых чытачоў тое важнае, што робіцца ў Беларусі. Той, хто цікавіцца справамі беларусаў у Польшчы, ня можа абмінуць рэдакцыі «Нівы»."

На пытаньне пра тое, ці маюць беластоцкія беларусы падтрымку з Бацькаўшчыны, сп. Вапа адказаў: "...для нас, як для беларускай меншасьці ў Польшчы, самай лепшай дапамогай з боку мэтраполіі будзе, калі Беларусь стане насамрэч беларускай — у адукацыі, ва ўсёй уладнай вэртыкалі, у сутнасьці сваёй. Беларуская Беларусь — гэта самы лепшы падарунак і дапамога ад сваёй дзяржавы, якую могуць мець беларусы па-за межамі".Рэдакцыя "Беларуса" сардэчна віншуе рэдакцыю "Нівы" і ўсю беларускую грамаду Беласточчыны са слаўным юбілеем. Жадаем нашым калегам па працы ў беларускім друку ў замежжы цьвёрда і надалей трымаць высокі ўзровень газэты, плённа ажыцьцяўляць сваю высокую міссію аб’яднаньня беларусаў у Польшчы і тым самым падтрымкі ўсяго беларускага жыцьця ў дыяспары. У добры шлях, дарагія сябры і паплечнікі!

***Рэдакцыя газэты "Беларус"***

# Размова пра мову

31 студзеня ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Нью-Ёрку адбылася лекцыя пра ролю мовы ў жыцьці беларускай нацыі, з якою выступіў сп. Зянон Пазьняк. Нагодаю сталася перавыданьне ім кнігі Аўгена Каханоўскага "Мова ў гісторыі беларускага пісьменства". Кніга была напісана вядомым беларускім дзеячам і навукоўцам і выдадзена ў 1974-1975 г.г. (Мюнхен-Лёндан). Аўтар падрыхтаваў дзве кнігі гэтага выданьня. Сп. Пазьняк пакуль перавыдаў толькі першую частку.

У сваім выступе сп. Пазьняк на падставе зьместу кнігі паказаў, якой багатаю была культура Вялікага Княства Літоўскага і як культурныя набыткі нашага народу масава зьнішчаліся і рабаваліся найбольш нашым усходнім суседам – Расеяю, і таксама ў некаторых выпадках прыўлашчваліся і заходнімі суседзямі – Польшчаю і Літвою.

Выступоўца падкрэсьліў асаблівую значнасьць для захаваньня культуры нацыі друкаванай кнігі, згадаўшы вядомыя словы "Напісанае застаецца" і словамі з Біблії "Спачатку было слова..." Слова – гэта асноўная прыкмета чалавека, але словы кожным народам выказваецца па-свойму, так стваралiся нацыянальныя мовы і яны ёсьць галоўным духоўным набыткам кожнай нацыі. Мовы яднаюць народы ў нацыі, яны служаць сродкам разьвіцьця нацыі, яны ёсьць нацыянальныя коды, якія перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне. Усе тыя нацыянальныя культурныя каштоўнасьці, пра якія гаворыцца ў кнізе, аб’ядноўвае найперш мова – яны напісаныя на нашай мове і ў першую чаргу належаць нам.

Сп. Пазьняк, як навукоўца-гісторык, засяродзіў увагу і на тым, што нацыянальная культура рабавалася не толькі суседзямі, але і ўласнымі манкуртамі. У савецкія часы ў бібліятэках і архівах існавалі закрытыя сховішчы, дзе ад грамадзтва хавалася найперш тое лепшае, што было напісана на беларускай мове. Яшчэ горш, што многае зьнішчалася ўвогуле, папросту спальваліся каштоўныя кнігі на падставе таго, што імі быццам ніхто не карыстаецца і яны дарма займаюць месца, якое трэба вызваліць для захаваньня масавай прасавецкай псэўдалітаратуры.

Далей пад час абмеркаваньня ішла гаворка пра тое, што трэба сёньня асабліва дбаць пра захаваньне нашых нацыянальных набыткаў, нашай мовы і ўсяго лепшага, што на ёй напісана. Ганна Сурмач зьвярнула ўвагу на тое, што нашы магчымасьці для захаваньня зараз пашыраліся. Беларускія кнігазборы ёсьць у Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы, У Славянскай бібліятэцы ў Празе, у Варшае. Мы можам перадаваць туды кнігі, якія выдаюцца цяпер сьвядомай беларускай грамадзкасьцю і якія не зьбіраюць дзяржаўныя бібліятэкі ў Беларусі. Мікола Шчэрба заклікаў упарадкаваць бібліятэку, якая ёсьць пры нашым беларускім цэнтры, прапанаваў даручыць працу па стварэньні каталёга нашай моладзі. Вельмі эмацыйным быў выступ прадстаўніцы якраз гэтай моладзі – Натальлі Федарэнка. Яна ўзрушыла прысутных сваёй глыбокай заклапочанасьцю лёсам страчаных архіваў і бібліятэк, выказала надзею, што яшчэ можна нешта вярнуць, што патрэбна шукаць, патрабаваць вяртаць, бо гэта наша ўласнасьць.

Прысутныя выказалі самую шчырую зацікаўленасьць тэмаю лекцыі, актыўна абмяркоўвалі, задавалі пытаньні. Прыемна было бачыць, што тэма для іх важная, што ёсьць глыбокае разуменьне існуючых праблемаў і гатовасьць самім не стаяць у баку, а спрыяць па магчымасьці захаваньню тут на чужыне сваёй мовы, знаёміцца з тымі каштоўнасьцямі, якія стварыла беларуская нацыя на сваім гістарычным шляху.

***Ганна Сурмач***



***Шаноўныя сябры! Бруклінскі аддзел БАЗА запрашае вас далучыцца да новастворанай інфармацыйна-кантактнай старонкі ў Facebook: "BAZA - афіцыйная старонка". На ёй вы знойдзеце навіны, падзеі і кантакты беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку.***

# Бразыліец вывучыў беларускую мову, каб зразумець краіну і культуру сваёй жонкі

***Беларуска Воля Ермалаева і яе муж, бразылец Патэрсан Франка, пазнаёміліся ў 2011 годзе. З таго часу пара жыве ў горадзе Саўвадор, штат Баія, што ў Бразыліі.***

«РадыёСвабода» пагутарыла з Вольгай і Патэрсанам і высьветліла, што ў Бразыліі пара выкладае розныя мовы, а таксама імкнецца папулярызаваць беларускую мову, культуру і гісторыю. Напрыклад, да 25 сакавіка рыхтуецца паказ фільму «Жыве Беларусь!» з субтытрамі на партугальскай мове.

***— Воля, распавядзіце Вашу гісторыю. Дзе Вы нарадзіліся, дзе вучыліся, як прыйшлі да беларускай мовы?***

**Воля:** Я вырасла ў Наваполацку. Як была малая, пыталася ў мамы, ці ёсьць у сьвеце яшчэ нейкая краіна, дзе размаўляюць па-беларуску. Ну, па-расейску ж размаўляюць і ў Расеі, і ў Беларусі. А беларуская мова быццам афіцыйная ў Беларусі. Але дзе яшчэ? Дзесьці ж на ёй размаўляюць? ...У Наваполацку я вучылася ў расейскамоўнай школе, таму беларускую гаворку па-за школьнымі заняткамі па беларускай мове, літаратуры і гісторыі Беларусі было пачуць цяжка...

Ва ўнівэрсытэцкія гады ўжо было з кім размаўляць па-беларуску, але заставаліся расейскамоўныя сябры, і мне было вельмі нязручна размаўляць па-беларуску і атрымліваць адказы па-расейскай. Ну, і ў грамадзкіх месцах такая ж сытуацыя была. Гэты момант я перадолела, толькі калі ўжо мой муж стаў беларускамоўным — ён на гэтую тэму не замарочваецца і прынцыпова размаўляе зь беларусамі толькі па-беларуску, як бы яму ні адказвалі. Ну, і я бяру цяпер прыклад зь яго...

***— Як Вы пазнаёміліся з Патэрсанам?***

**Воля:** У 2011 годзе я, вывучыўшы трохі партугальскай (такое было ў мяне хобі ў той час) і начытаўшыся Жоржы Амаду, прыехала па валянтэрскай праграме ў бразыльскі горад Саўвадор. На другі дзень пазнаёмілася з Патэрсанам. Я схільная лічыць, што гэта лёс.

***— Як даўно Патэрсан ведае беларускую мову? Як Вы яго вучылі? І чаму ўзьнікла такое жаданьне?***



**Воля:** Увогуле я валодаю беларускай, партугальскай, ангельскай, расейскай і нямецкай мовамі. Муж — беларускай, партугальскай, ангельскай, расейскай, гішпанскай, італьянскай і французкай. Ён гэтыя мовы ўсе (акрамя беларускай ды італьянскай) яшчэ і выкладае. Я свае таксама, акрамя нямецкай, яна ў мяне самая новая і слабая пакуль. Цяпер вучым разам кітайскую.

Увогуле, калі мы пазнаёміліся, Патэрсан валодаў ужо шасьцю мовамі і не зьбіраўся больш ніякую вучыць. Але праз нейкі час, у 2012 годзе, мы паехалі разам у Беларусь, павандравалі па краіне тры тыдні, і ў нейкі момант ён вырашыў, што ня мае сэнсу яму зь дзяўчынай-беларускай у Беларусі размаўляць па-расейску. Сказаў: «Вучы мяне». Падручнікаў для замежнікаў ня тое каб шмат, дый не хацелася вучыць па падручніках. Таму ён проста забараніў мне зьвяртацца да яго на іншых мовах. Казаў: «А як вось гэта спытаць па-беларуску?» Я адказвала, тады ён паўтараў за мной, я мусіла адказваць і тлумачыць, калі што незразумелае было. Першыя пару тыдняў было цяжкавата. Найперш мне. Бо нязвыкла тлумачыць па-беларуску, калі можна проста адказаць па-партугальску, па-расейску ці нават па-ангельску. Але ён не здаваўся, і хутка справа дала плён. Праз шэсьць месяцаў ён даваў інтэрвію Белсату на досыць добрай беларускай мове.

***— Чым вы і Патэрсан займаецеся ў Бразыліі? І чым захапляецеся?***

— Цяпер мы абое навучаемся ў магістратуры, выкладаем мовы, часам займаемся перакладамі. У вольны час ходзім на пляж, плаваем, бегаем, удзельнічаем у спаборніцтвах, робім гравюры (летась зрабілі сямейную выставу «Беларускі Саўвадор»). Гравюрамі мы ўжо тут, пасьля вяртаньня зь Беларусі пачалі займацца. У магістратуры абое працуем зь беларускай тэматыкай, хоць і ў розных сфэрах. Патэрсан навучаецца на філялягічным, я — на архітэктурным..

***— Чаму вы вырашылі жыць у Бразыліі, а не ў Беларусі?***

**Воля:** Насамрэч, здаецца, мы і не абмяркоўвалі, дзе жыць, гэта было неяк адпачатку зразумела. Проста неяк тут складаецца ў нас жыцьцё. У нашым Саўвадоры заўсёднае лета, мора і пляжы. Я зь дзяцінства марыла пра мора, а ў нас яно бачна з вакна, яшчэ і сонца заходзіць у яго. У мяне тут упершыню ў жыцьці зьявілася адчуваньне сапраўднага дому, а не часовага прытулку...

Беларускамоўных у нас тут, акрамя нас, здаецца, пакуль няма. Але ў нас існуе клюб паліглётаў пры каўчсэрфэрскай суполцы, дык там два нашы сябры — Фэліпэ і Маркус — пачынаюць патроху з намі вучыць беларускую...

***— Патэрсан, што вы ведаеце пра Беларусь? Ці ваша цікавасьць абмяжоўваецца мовай? Што наконт гісторыі, культуры, музыкі?***

**Патэрсан:** Трохі ведаю гісторыю Беларусі з часоў крывічоў (то бок раней былі на той тэрыторыі іншыя народы, як балты і гуны) да Полацкага княства, стварэньня ВКЛ у Навагрудку, да Люблінскай уніі ды падзелаў Рэчы Паспалітай, калі літоўска-беларускія землі былі ў складзе Расейскай імпэрыі і потым злучаліся ў БНР, якая, на жаль, не пратрымалася доўга. Але варта ўзгадаць, што яе ўрад, найстарэйшы ў выгнаньні на сьвеце, дагэтуль існуе. Беларусь згубіла часткі сваёй тэрыторыі, якія адышлі для суседніх краінаў. Я маю на ўвазе Вільню, Смаленск ды Беласток. З дыктатуры ў дыктатуру, ня вельмі шмат зьмянілася ў Беларусі пасьля канца Савецкага Саюзу. Пакуль.

Наконт культуры, я люблю вышыванку ды выцінанкі беларускія, нават навучыўся імі карыстацца ў гравюрах; дранікі, мачанку ды клёцкі люблю. Я, у прынцыпе, вельмі люблю бульбу. Слухаў беларускую музыку яшчэ да таго, як увогуле вырашыў вучыць мову. Гурты падабаюцца «Стары Ольса», «Троіца», «Зьніч», «Крама», «NRM» і «Крамбамбуля». Яны вельмі натхнялі ў працэсе навучаньня, сёньня слухаю яшчэ шмат іншых. Зь беларускімі пісьменнікамі, як Янкам Купалам, Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным ды Максімам Багдановічам, таксама даўно знаёмы — здымаў розныя відэа, дзе чытаю вершы для розных праектаў.

Воля: Я дадам, што Патэрсан даў мне зразумець, што сапраўды беларуская музыка вельмі вартая — яна разнастайная і якасная. А я думала раней, што, можа, мне так падаецца, бо я беларуска. Гэта яшчэ да таго, як ён мову вучыць пачаў.

*Паводле Радыё Свабода*




# Каляндар памятных датаў на красавік 2016

**4 красавіка - 120** гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся **Васіль Русак**, грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**7 красавіка - сусьветны дзень здароўя**

**8 красавіка - 60** гадоў таму, у 1956 годзе, у Менску адкрыўся **Беларускі дзяржаўны тэатр юнага гледача**

**9 красавіка - 70** гадоў таму, у 1946 годзе, у Міхельсдорфе (Нямеччына) было створана **Беларускае літаратурнае згуртаваньне "Шыпшына"**

**10 красавіка - Міжнародны дзень вызваленьня вязьняў гітлераўскіх канцлягераў**

**11 красавіка - 80** гадоў таму, у 1936 годзе, нарадзілася **Івонка Сурвілла,** восьмая старшыня Рады БНР

**14 красавіка - 85** гадоў таму , у 1931 годзе, памёр **Віктар Вальтар**, беларускі пісьменнік у Латвіі

**17 красавіка - 125** гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся **Язэп Варонка**, палітычны дзеяч Рады БНР, дзеяч эміграцыі у ЗША

**18 красавіка - Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясьцін**

**19 красавіка - 135** гадоў таму, у 1881 годзе , нарадзіўся **Усевалад Ігнатоўскі**, гісторык, першы прэзыдэнт Акадэміі навук Беларусі

**23 красавіка - 130** гадоў таму, у 1886 годзе, нарадзіўся **Зьмітрок Бядуля** (Самуіл Плаўнік), пісьменьнік

**23 красавіка - 25** гадоў таму, у 1991 годзе, у Штутгарце (Нямеччына) памёр **Дзьмітры Касмовіч**, дзеяч нацыянальнага руху і эміграцыі у Бэльгіі і Нямеччыне

**24 красавіка - Міжнародны дзень салідарнасьці моладзі**

**24 красавіка - 10** гадоў таму, у 2006 годзе, памерла **Вера Бартуль**, дзеячка эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША

**24 красавіка - 80** гадоў таму, у 1936 годзе, нарадзілася **Вера Рыч**, брытанская перакладчыца беларускай літаратуры, удзельніца беларускага жыцьця ў Ангельшчыне

**26 красавіка - Дзень памяці ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы**

**29 красавіка - 95** гадоў таму, у 1921 годзе, нарадзіўся **Мікола Ермаловіч**, гісторык

**29 красавіка - 85** гадоў таму, у 1931 годзе, памёр **Яўхім Карскі**, мовазнавец, этнограф, фальклярыст, заснавальнік навуковага беларусазнаўства

**30 красавіка - Сусьветны дзень пародненых гарадоў.**

# «ГараШ»

## Брутальны беларускі гумар

**11 лютага ўпершыню ў гісторыі незалежны беларускі фільм выйшаў у шырокі дзяржаўны кінапракат. Гэта трагікамедыя «ГараШ» рэжысёра-сцэнарыста Андрэя Курэйчыка (аўтар сцэнарыяў паспяховых расійскіх фільмаў «Любовь-морковь», «Ёлки», «Юленька», беларускай маладзёвай драмы «Вышэй за неба», і інш.). У Мінску стужку можна было паглядзець у кінатэатрах «Масква», «Перамога», «Арт-кінатэатр» і «Сільверскрын». Акрамя гэтага яшчэ больш чым у 20 гарадах Беларусі.**

Праект «ГараШ» – першы беларускі сіткам, жанр пазначаны, як чорная камедыя. Гэткі адказ галівудскім і расійскім серыялам накшталт «Доктара Хаўса» і «Інтэрнаў». Карціна пра сучаснага беларуса, які пражыў пяць гадоў у ЗША і пасьпеў увабраць у сябе амерыканскія ідэалы, але быў вымушаны вярнуцца на Радзіму. Філасофская сатыра на тэму сутыкнення цывілізацый, канфлікту паміж заходнім цывілізаваным і законапаслухмяным мысленнем і кансерватыўным постсавецкім.

### Сюжэт

Дзеяньні фільма разгортваюцца на ўскраіне Менска ў мікраёне Шабаны (таму і «Ш» на канцы слова-назвы фільма). Не выпадкова для здымак абралі менскія Шабаны – мікраён, які для многіх стаў знакам «савецкага» ладу жыцця, ментальнасці і эстэтыкі.

Галоўны герой (ролю выканаў акцёр Тэатра беларускай драматургіі Арцём Курэнь) – Віталь Барзоў, малады беларус, які зьехаў у ЗША і працаваў у прэстыжным аўтасэрвісе ў горадзе Сэнт-Луіс аўтамеханікам па праграме Work & Travel. Пасля пяці гадоў жыцця ў Амерыцы хлопец вырашыў там застацца і, каб яго не выслалі на Радзіму, парваў беларускі пашпарт. Але, гэта не выратавала яго ад дэпартацыі. Хлопец, у якога ўжо склалася свая амэрыканская мара, з заходняй псіхалёгіяй і планамі на жыцьцё, апынуўся без дакумэнтаў на Радзіме. Без пашпарта, адзінае, дзе яму ўдалося знайсці працу, – у гаражным СТА на ўскраіне Менска, у мікраёне Шабаны. Ягоныя амерыканскія рэкамендацыйныя лісты нікому не былі цікавыя, важна толькі тое, на што ён здольны. Ён працуе разам з мясцовымі механікамі – тымі яшчэ работнікамі. «Прабач, але гэта Беларусь!» – кажа яму з сарказмам Барыс Рыгоравіч, уладальнік гэтага гаража. Яго ролю выканаў Аляксандр Кулінковіч, вядомы беларускі рок-музыка, вакаліст групы «Neuro Dubel». Па сюжэце фільма ён нарадзіўся ў Шабанах, тут вырас і большасць свайго часу праводзіць у гаражы. Выдатна разьбіраецца ў машынах, адрамантуе што заўгодна (але, калі трэба, то можа і паламаць).

На гэтую ролю Андрэй Курэйчык не выпадкова абраў менавіта Кулінковіча. Для фільма быў патрэбны герой не «салодзенькі» – мара хатніх гаспадыняў, а моцная асоба, сапраўдны брутальны беларус, здольны кінуць выклік любым акалічнасцям. Не меньш яркім і харызматычным атрымаўся вобраз і ягонага напарніка (ролю выканаў Юры Навумаў).

Кулінковіч не толькі выканаў адну з галоўных роляў, у фільме гучыць і песьня ў ягоным выкананьні. Асноўным жа аўтарам музычных тэмаў выступіў Дзмітрый Фрыга.

Упрыгожыла фільм маладая актрыса Лізавета Шукава, яна выканала ролю дачкі чыноўніка, які правярае той гараж, і работнікі СТА вымушаны адкупляцца ад яго праверак. Па сюжэце гераіня становіцца кліенткай гаражу, прыязджаючы як раз, калі наш «амерыканец» прыходзіць уладкоўвацца на працу. Ён нават пасьпеў трошкі закахацца ў яе. Майстры гаража «разводзяць» яе з рамонтам машыны на грошы, якія яна бярэ ў свайго бацькі. Пры гэтым атрыманая ад яе сума ўдвая большая, чым памер атрыманага бацькам хабару. Так працаўнікі гаража аддаюць службоўцу яго ж грошы, вырашаючы гэтым свае пытаньні, і яшчэ зарабляюць пры гэтым на першую зарплату Віталю.

А яшчэ ва ўсёй красе эпатажна бліснула ў фільме зорка беларускага кіно Эвеліна Сакура. Яна выканала пікантную ролю – стрыптызёршы па выкліку, якая днём працуе супрацоўніцай сабеза (Раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння), афармляючы пенсіі, а пасля працы змушана падзарабляць, каб карміць і апранаць сваіх дзяцей.

Паміж героямі стужкі ўвесь час адбываюцца смешныя і не вельмі сутычкі, з-за рознага сьветаўспрыманьня: з аднаго боку – пастсавецкага, з іншага – заходняга. А няўдалы эмігрант нанова адкрывае для сябе сваю Радзіму і паступова пачынае разумець тонкасьці мысленьня мясцовых жыхароў і нюансы працы ў ягонай краіне.

### Гісторыя стварэньня

Ідэя фільма нарадзілася ў кампазітара Дзмітрыя Фрыгі, які захацеў стварыць цікавае кіно насуперак тым, хто толькі жаліцца, што нічога нельга зрабіць без грошай. Сваёй ідэяй ён падзяліўся з апаратарам-пастаноўшчыкам Аляксандрам Крупінай і вядомым беларускім сцэнарыстам Андрэем Курэйчыкам, пасля чаго Андрэй напісаў сцэнарый да фільма.

Першапачаткова быў разлік, што атрымаецца фільм зьняць праз краўдфандзінг, папулярны на Захадзе, які цяпер атрымлівае пэўнае распаўсюджванне і ў Расіі. Гэта калі людзі, якім проста цікавы той ці іншы праект, уносяць у яго свой добраахвотны фінансавы ўнёсак. Для старту здымкаў неабходна было сабраць 80 млн. рублёў (каля 4,5 тыс. даляраў). Але, выглядае, у нашай краіне дадзеная мадэль пакуль не працуе. Тым не менш стваральнікі фільма прыступілі да здымкаў, так бы мовіць – на свой страх і рызыку. Ідэя і гарачае жаданьне творцы аказаліся мацнейшымі. Быў арганізаваны кастынг, абвешчаная акцыя са зваротам да ўсіх ахвотнікаў дапамагчы. І знайшліся людзі, і абсталяванне, і аўтамабілі для здымак. Шмат хто прыходзіў, каб проста дапамагчы ў працы на здымачнай пляцоўцы. Таму атрымалася ўсё ж такі зняць фільм з мінімальнымі ўкладаннямі – менш чым за 5 тысяч даляраў!

Здымкі праходзілі з 26 чэрвеня 2015 года як у Шабанах, так і ў іншых месцах Менску. Праца ішла ў аўральным рэжыме, людзі працавалі па 15 гадзін у суткі, з раніцы да позняй ночы. І фільм атрымалася зняць у запланаваныя сцэнарыстам і рэжысёрам Андрэем Курэйчыкам 4 дні! Цікава, што фільм яшчэ стаў першым, дзе зняўся сын Андрэя Курэйчыка, Глеб, які выканаў невялічкую эпізадычную ролю.

Кулінковіч, які сыграў галоўнага героя, пасля завяршэньня здымак напісаў на сваёй старонцы ў Фэйсбуку: «Я так ніколі не стамляўся. Спусташэньне поўнае. Сказаць, што задаволены – зманіць. Я вельмі задаволены. Сказаць, што ўдзячны, гэта таксама маленькая хлусня. Я вельмі ўдзячны. Я яшчэ ніколі не бачыў, каб гэтакая колькасьць людзей працавала ў такім парыве. Ад Андрэя і Дзімы, галоўных генератараў да... Не магу сказаць, "да апошняга". Не было апошніх».

### Прэм'ера фільма на «Лістападзе»

7 лістапада ў рамках XXII Менскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» адбылася прэм'ера стужкі ў кінатэатры «Перамога». Фільм быў прадстаўлены ў асноўным конкурсе ігравога кіно. Для ўдзелу ў нацыянальным конкурсе яго адабрала экспертная камісія фестывалю. Фільм прайшоў пры поўным аншлагу, квіткі на прэм'еру раскупіліся за некалькі дзён да паказу. Цікавасць гледачоў да яго была настолькі вялікай, што частка людзей была вымушана глядзець фільм стоячы, і адміністрацыі фестываля арганізавала дадатковы сеанс.

Падчас прагляду зала разпораз узрывалася смехам і апладысментамі. Верагодна, стваральнікі фільму і самі не чакалі гэтакага эфекту. Рэакцыя гледачоў адказала на ўсе пытаньні – большасьць з іх фільм дакладна не пакінуў абыякавымі, бо ён выкрывае і закранае тыя праблемы, якія цалкам зразумелыя сучаснаму беларусу. Гэта і непаразуменьні паміж прадпрымальнікамі і чыноўнікамі (хабарніцтва сярод якіх высмейваецца ў фільме), і не заўсёды зразумелыя ў народзе законы, якія навязваюць зьверху (як закон пра дармаедства). І на фоне гэтага ўсяго – звычайная народная выдумка і кемлівасьць.

### Эўрапейская прэмьера

21 лістапада ў штаб-кватэры Парламенцкай асамблеі Рады Эўропы і Эўрапарламента ў Страсбургу (Францыя), у праграме IV Сусветнага Дэмакратычнага Форума адбылася эўрапейская прэмьера фільма. На форуме прысутнічалі дэпутаты Эўрапарламента, палітыкі, журналісты, прадстаўнікі з больш чым 50 краінаў. Мадэратарам паказу выступіў дырэктар Усходне-эўрапейскай школы палітычных даследаваньняў Аляксандр Дабравольскі. Перад пачаткам паказу ён адзначыў, што Беларусь сёньня спрабуе зразумець, чаго яна можа дасягнуць, ці хопіць рашучасьці зладзіць з праблемамі, якія замінаюць нашаму народу. А пасля прэзентацыі ён паведаміў, што фільм выклікаў вялікую цікавасьць.

«ГараШ» – новая форма нацыянальнага беларускага кіно

«ГараШ» стаў унікальным нацыянальным беларускім кінапраектам. Фільм ствараўся камандай творчых аднадумцаў для таго, каб паказаць іншае беларускае кіно. Аўтары праекта паставілі перад сабой мэту даказаць, што пры жаданні можна зьняць незалежнае некамерцыйнае кіно ў Беларусі нават без дзяржаўнай падтрымкі. І яны гэта здолелі даказаць уласным прыкладам.

Журналіст і прадзюсэр Уладзімір Максімкоў назваў «ГараШ» пасьпяховым прыкладам таго, што ў Беларусі можна здымаць кіно, незалежнае ад кінастудыі і дзяржаўных бюджэтаў. Ён упэўнены, што гэта ўдалы эксперымент, які ўвайшоў у гісторыю, і праз шмат гадоў пра яго напішуць у падручніках пра адраджэньне беларускага кінематографа.

А рэжысёр беларускай містычнай стужкі «Масакра» Андрэй Кудзіненка, назваў фільм амбіцыёзнай спробай (амаль у адзіночку) не толькі прабіць дарогу айчыннаму фільму ў кінапракат, але, у першую чаргу, – перавярнуць наша стаўленне да ўласнага кіно, дасягнуць глядацкага посьпеху, зьбіць пыху скептыкаў з прафесійнага асяродзьдзя, пераадолець інэрцыю падсаджанага на стандартны галівудскі прадукт абывацеля.

Як выказаўся сам Андрэй Курэйчык: "ГараШ" – гэта новая форма нацыянальнага беларускага кіно, ён створаны без дзяржаўных крыніц фінансавання, без расейскіх прадзюсэраў, затое з выдатнай айчыннай камандай прафесіяналаў і для беларускага гледача. Гэта кіно не ідэалагічнае, не палітычнае, але па-добраму хуліганскае і эксперыментальнае. Яно пра нас – сучасных беларусаў".

Фільм адлюстроўвае беларускі менталітэт, адлюстроўвае наша жыццё і вобраз мысленьня беларусаў, якія, з аднаго боку жадаюць мець заходні ўзровень дабрабыту, але ніяк не могуць адвыкнуць думаць савецкімі штампамі. Мы не Эўропа, але і не Расея. Імкнёмся да эўрапейскіх каштоўнасцяў, адносім сябе да Эўропы, але жывём толькі дзесьці на яе ўскраіне. Як і Шабаны, размешчаныя на ўскраіне сталіцы – не сталічны цэнтр, але ўсё ж частка горада.

Андрэю Курэйчыку са сваёй камандай атрымалася зрабіць тое, чаго даўно не атрымоўвалася зрабіць беларускаму кінематографу — сабраць поўныя залы і прымусіць казаць пра беларускае кіно. Кіно, якое атрымалася зьняць за гэткія кароткія тэрміны і пры малым бюджэце, не выкарыстаўшы пры гэтым ні капейкі дзяржаўных грошай. Гэта ўжо само па сабе заслугоўвае вялікай павагі.

*Алег Грушэцкі*

## ЗБОР ЗРОДКАЎ НА ПОМНІК АЛЕСЮ ЧАРКАШЫНУ

28 жніўня 2015 года ва ўкраінскім вайсковым шпіталі ад ранаў памёр беларускі добраахвотнік ДУК "Правы Сектар" Алесь Чаркашын (пазыўны "Тарас"). Ён быў цяжка паранены 10 жніўня ў баі пад Белакаменкай на Данбасе. У тым жа баі загінуў украінец Віталь Целяжэнка.

Алесь меў 33 гады, паходзіў з Берасця. У мінулым узначальваў беларускую гарадскую арганізацыю БХД, удзельнічаў у шматлікіх акцыях, у тым ліку Плошчы-2010, неадназова затрымліваўся міліцыяй. Алесь-"Тарас"-Чаркашын удзельнічаў у АТО ў ДУК "Правы Сектар" як мэдык і капэлан.

Зімой гэтага года "Тарас" разам з "Беларусам" узнялі наш нацыянальны сцяг над Пескамі, на самай перадавой. "Тарас" быў смелым і дысцыплінаваным жаўнерам, адданым сябрам і патрыётам сваёй зямлі. Многія ведаюць: Алесь умеў натхняць, нават тых, хто бачыў яго ўсяго толькі некалькі разоў. Алесь яшчэ да вайны быў жывым героем для многіх беларусаў. Ён мог падтрымаць словам, справаю, песняю...

Пахавалі Алеся 3 верасня 2015 года пад Берасцем.

Збіраюцца сродкі на усталяванне помніка Алесю Чаркашыну, якія будуць перададзеныя ягоным бацькам.

Скульптар – Гэнік Лойка.

Інфармацыю і выяву можна паглядзець тут:

http://belsat.eu/news/u-mensku-pradstavili-praekt-pomnika-alesyu-charkashynu/

Польскі рахунак для пераліку: PL 05 1240 6423 1111 0000 4583 0222 — Anton Tsialezhnikau, SWIFT: PKOPPLPW банк: PekaoSA

Для тых, хто хоча наўпрост пералічыць ахвяраванні на помнік Алесю Чаркашыну і дапамогу ягонай сям'і, падаем рэквізіты карткі брата Алеся.

"Беларусбанк" 9112 0001 5805 4367 09/20 Чаркашын Ігар Мікалаевіч

# ДЗІЦЯЧАЯ СТАРОНКА



## Казкі ад Алега Аблажэя (Вільня)

### ЯК ПУДЗІЛА МАРЫЛА СТАЦЬ ПТУШКАЙ

Стаяла калісь у полі пудзіла. На першы пагляд яно было, як кожнае іншае – мела на сабе патрапаны стары пінжак, выцьвілы капялюш з пакамечанымі і паламанымі пер'ямі. Аднак, адрознівалася яно ад усіх астатніх тым, што не падабаўся яму ягоны занятак. Зусім не хацелася яму адпуджваць птушак, яму хацелася гуляць з імі, сябраваць, а самай запаветнай ягонай марай было самому ператварыцца ў птушку. Але кожная птушка, ад вялікага бусла да найменьшага жаўрука, абміналі яго здалёку. І чым мацней пудзіла размахвала залатанымі дзіравымі рукавамі, запрашаючы да сябе, тым мацней яны яго баяліся.

Але, аднойчы ўбачыла пудзіла вялізную нязвыклую птушку з круглымі жоўтымі вачыма, за якою гналіся, агідна каркаючы, вароны. Гэта дзіўная птушка ляцела проста на пудзіла, аж тое знерухомела ад страху. А незнаёмая птушка ўдарылася пудзілу проста ў грудзі, але апрытомнела і схавалася пад крысом пінжака. А была гэта сава, што жыла ў дупле старога дрэва, якое было настолькі трухлявым, што завалілася ад парыву ветру, ледзь не прыціснуўшы няшчасную саву. А совы, хоць і маюць вялікія жоўтыя вочы, добра бачаць толькі ноччу, днём жа сляпыя і безабаронныя, таму й баяцца нават дурной вароны.

Даведалася пра ўсё гэта пудзіла, калі трохі супакоілася, ды ўсьцешылася, што ўрэшце можа размаўляць з сапраўднай птушкай, а можа, нават, і пасябраваць з ёй, бо як-ніяк, яно ўратавала саве жыцьцё. Апавяло пудзіла і пра сваю гарачую мару. Совы з'яўляюцца найразумнейшымі сярод птушак, але аднак нават яна, хоць і была ўдзячная пудзілу за выратаванне, нічога не магла яму параіць. І ўсё ж сава прыпомніла, што чула ад знаёмага жорава пра ягоную нязвыклую прыгоду ў далёкім цёплым краі, куды журавы адлятаюць на зіму.Гэты жораў знайшоў там недзе ў стэпе запячатаны медны збан, разбіў дзюбаю пячатку, і ўжо намерваўся ўсадзіць туды свой доўгі нос, як адтуль нечакана выскачыў маленькі сівабароды дзядок, які праз імгненьне вырас да памераў звыклага чалавека. Пачаў ён дзякаваць жораву за тое, што той яго вызваліў са збана, у якім быў запячатаны ворагамі. А цяпер ён можа ўлазіць і пакідаць свой збан, калі заўгодна. Сказаў дзядок, што ён чараўнік, і здольны выканаць любое жаданне жорава. Той, аднак, падзякаваў і сказаў, што мае ўсё, што трэба, і нічога не патрабуе, – хіба што калі-небудзь у будучыні зьвернецца да дзядулі з просьбаю аб дапамозе.

Апавяла сава пудзілу пра гэты выпадак і адляцела – бо наступіў ужо вечар, і сава зноў бачыла ўсё навокал.

А пудзіла засталося самотнае ў полі са сваімі марамі і думкамі. Задумалася яно, што мусіць навучыцца лётаць, каб памкнуць услед за журавамі ў цёплы край, дзе жыве ў медным збане таямнічы чараўнік.Не ведала, як гэта зрабіць, але так моцна гэтага хацела, што калі аднойчы, заўважыўшы ў небе жураўліны клін, само не зразумела, як яму ўдалося ўзняцца ў паветра ды паляцець за птушкамі. Напэўна так ужо ёсць -- калі чагось моцна прагнеш, то таго й дасягнеш.

Доўгім было падарожжа, аж урэшце прывёў жораў пудзіла да таго месца,дзе ляжаў медны збан, і далікатна пастукаўся ў яго. Імгненна з'явіўся сівабароды дзядок, выслухаў просьбу пудзіла і глыбока задумаўся. А потым сказаў, што ён павінен параіцца з добрымі духамі, распаліў люльку і зьнік ў клубах дыму. Калі ж дым развеяўся, сказаў чараўнік, што мае для пудзіла дзве навіны, адну добрую, другую трохі горшую. Добрай навінай была тая, што дзядок з дапамогаю добрых духаў з чароўнай люлькі можа ператварыць пудзіла ў птушку, горшай тая, што птушка гэта будзе жыць не ў полі ці лесе сярод звыклых сарок, соек і дзятлаў, а толькі і выключна ў казцы. Пудзіла не вагаючыся пагадзілася. Распаліў тады чараўнік нанова сваю ўсемагутную люльку так, што клубы дыму ўкрылі гэтым разам і пудзіла – аж закашлялася бедачыска жудасна, і падумала, што ніколі ў жыцці не будзе курыць! Пачула, аднак, што замест палатаных рукавоў растуць яму магутныя крылы, і калі дым рассеяўся, агледзела сябе і пераканалася, што ператварылася ў цудоўную казачную птушку. І сказаў тады дзядок трэцюю, найлепшую навіну – жыць будзе гэта птушка датуль, дакуль будзе існаваць казка пра яго.

То, калі ты хочаш, каб птушка, што была калісь звыклым пудзілам, жыла доўга і шчаслівa, апавядзі сваім сябрам гэту казачку!

### ПРА ГІПАПАТАМА, ЯКІ ЗАКАХАЎСЯ Ў БАЛЕРЫНУ

Гіпапатам Боб першы раз у жыцці трапіў у тэатр. Усё яму пададбалася, усім ёнзахапляўся. Але, наймацней забілася ягонае сэрцайка, калі на сцэне паказалася балерына. У белай, як снег, празрыстай спаднічцы, сама таксама лёгкая бы сняжынка, вясёлым і бясклапотным матыльком лётала яна па – над сцэнай. Наступным разам прынёс Боб у тэатр вялізны букет найпрыгажэйшых кветак і ўручыў яго пасля спектакля ўлюбёнай балерыне, і тая была вельмі радая.



Але, не хапіла Бобу адвагі прызнацца ў каханьні, сціплы гэта быў гіпапатам і сарамлівы. Чырванеў, усьміхаўся, але не здолеў выцiснуць з сябе ані слова. "Я сапраўдны гіпапатам, тоўсты і няўклюдны," – панура разважаў Боб, вяртаючыся дахаты, – калі б я быў балетным танцорам, мы б таньчылі на той самай сцэне і тады б яна мяне пакахала". І Боб рашуча пастанавіў стаць балетным артыстам. Тут жа пайшоў у бібліятэкуі папрасіў усе кнігі пра балет, якія толькі можна. Зразумеў ён з таго чытаньня, што перш за ўсё мусіць пахудзець, а самае галоўнае, кожны дзень упарта трэніравацца. Ужо таго самага вечара замест сытнай вячэры з'еў Боб адзін адзіны лісток салаты. Назаўтра рана замест сняданку праглынуў другі. І прыступіў да рэпетыцыі перад вялікім люстрам. Кепска яму даводзілася – як бядак ні стараўся, не змог выканаць аніводнага практыкаваньня з падручніка балетных танцаў. Успацеў, засопся, і ўпаў знясілены ў поўнай роспачы на падлогу. "Гэта, мабыць, таму, што я не маю такога абутку, у якім таньчаць сапраўдныя артысты!" – падумаў ён. І вырашыў тут жа пайсці ў краму і набыць адпаведныя туфелькі. Калі ж Боб выйшаў з дому, паклікала яго суседка гіпапатамка – "Зазірні да мяне, Бобічак, на гарбатку!" Боб хацеў адмовіць, што не можа, што ён на дыеце, і ўвогуле не мае часу... Але з адчыненых дзвярэй суседчынага дому даносіліся такія апетытныя пахі! І Боб сам не заўважыў, як ногі панеслі яго ў дом суседкі. "А можа ты, суседзе, і паабедаў бы са мной?" – запытала салодкім галаском гаспадыня. І, не чакаючы адказу, пачала ставіць на стол розныя салаткі, суп з фрыкадэлькамі, лаўровым лістом і часнычком, кілбаску смажаную і вэнджаную, розныя катлеткі і шніцэлі, дранікі са смятанаю, агуркі і памідоры. А потым, вядома ж, была й гарбатка з мёдам і свежымі булачкамі! Яшчэ ніколі ў жыцці Боб не еў з такою ахвотай! І так наеўся, што ледзь кратаўся... "То адпачні сабе на канапе!" – прапанавала добрая суседка. І падушку прынесла. "Як добра быць гіпапатамам, – разважаў Боб, лежачы на мяккай канапе. Еш сабе што хочаш, і колькі хочаш! І якая ж добрая і прыгожая мая суседка! Як гэта я раней гэтага не заўважаў?" І так вось застаўся гіпапатам Боб у доме прыязнай суседкі. І забыўся пра худзенне і балярыну. Неўзабаве нарадзілася ў іх гіпапатамятка. А балет яны глядзелі толькі па тэлевізары. Таму і не відаць больш у тэатры гіпапатамаў...

## Зварот да суайчыньнікаў

Паважаныя сябры, мяне завуць Наталля Бружнік, я пішу ад імя творчай групы новага фільма Віктара Красоўскага «Душы мёртвыя».

Мэтай нашай групы з'яўляецца папулярызацыя і развіцьцё беларускага сучаснага кіно. Зараз мы шукаем партнёраў для падтрымкі незалежнага кінапраекта «Душы мёртвыя».

«Душы мёртвыя» – гэта сацыяльная драма, якая разбурае агульнапрынятыя стэрэатыпы пра людзей з інваліднасьцю. Ніякіх адмоўных эмоцый. Гэта дынамічны, яркі фільм. Каб такім яго зрабіць, аўтар выкарыстоўвае арыгінальную драматургію. Інавацыйная аператарская праца, фільм быў зняты «адным кадрам», так доўга ў Беларусі яшчэ ніхто не здымаў. Акцёрскі склад – гэта сумесная праца прафесійных акцёраў вядучых тэатраў Беларусі з людзьмі з інваліднасцю.

Аўтар фільма Віктар Красоўскі – драматург, рэжысёр, аўтар шматлікіх п'ес, якія былі адзначаны на розных тэатральных фестывалях і конкурсах. Дэбютаваў у кіно, як рэжысёр і сцэнарыст фільма «Вартаўнік», гран-пры «Варшаўскага фестывалю беларускага кіно Bulbamoovie – 2014», удзельнік і сушукальнік нацыянальнай прэміі кінафестывалю Лістапад-2014, удзельнік кінафестывалю «Cinema Perpetuum Mobile – 2015», удзельнік фестывалю «Golden Anteaters – 2015», ўнесены ў каталог Corner FESTIVAL DE CANNES 2015

Больш падрабязна пра стварэнне фільма можна даведацца ў сацсетках:

https://vk.com/dushymertvye

https://www.facebook.com/dushymertvye

Мы звяртаемся да нашых суайчыньнікаў, якія жывуць па-за межамі Беларусі, з просьбай прыняць удзел у нашым праекце. Для нас важная любая падтрымка: вы можаце стаць спонсарам на краўдфандынгавай платформе Вулей.Бай http://ulej.by/project?id=35739 ці проста падзяліцца гэтай інфармацыяй з сябрамі ў сацсетках.

Калі вы верыце ў новае беларускае кіно, заклікаем вас прыняць удзел у стварэньні гэтага фільма, і далучыцца да постпрадакшна сацыяльнай драмы «Душы мёртвыя»

Дзякуй!

**1 сакавіка свой 80-гадовы юбілей адзначыла Лідзія Савік – вядомая літаратуразнаўца, крытык, пісьменьніца, прафесар, педагог, адна з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", шматгадовы сябра Вялікай Рады ЗБС.**

меньнікі, каго я сустракала, расказвалі пра сваіх спадарожнікаў па ГУЛАГаўскіх этапах. У выніку мне ўдалося сабраць вельмі шмат матэрыялаў пра пісьменьнікаў замежжа...

Вярнуўшыся дадому, я пачала больш глыбока дасьледаваць іх творчасьць. Мне давялося пабываць у Скарынаўскай бібліятэцы ў перш цікавіла беларуская гісторыя, мова, культура. Яны пісалі пра тое, пра што не маглі гаварыць літаратары ў Беларусі. Таму беларуская літаратура замежжа шмат у чым дапоўніла нашу айчынную літаратуру. Цяпер мы маем адзіную літаратуру і лічым пісьменьнікаў замежжа сапраўднымі беларускімі пісьменьнікамі.

# Лідзія Савік: "Я вярнула Беларусі рэпрэсаваную літаратуру"

У інтэрвію Радыё Свабода 02.03.2016 Лідзія Савік расказала пра знаёмства зь беларусамі ў ЗША і што лічыць сябе чалавекам, які вярнуў Беларусі літаратуру беларускага замежжа. Прапануем вытрымкі з гэтага інтэрвію.

"Так атрымалася, што мяне як дасьледчыка літаратуры камандзіравалі ў ЗША, дзе я апынулася ў асяродку беларускай дыяспары і некалькі месяцаў жыла ў Масея Сяднёва, першая ў нашай прэсе пісала пра яго жыцьцё і творчасьць, вяртала яго спадчыну, літаральна перапісвала яго творы. У ЗША я пабывала ў многіх беларускіх пісьменьнікаў, размаўляла з Натальляй Арсеньневай. Тыя пісь-Лёндане, за што дзякую айцу Аляксандру Надсану. Там я шукала зьвесткі пра пісьменьнікаў, якія мяне цікавілі. Гэта былі паэты Натальля Арсеньнева, Уладзімер Дудзіцкі, Хведар Ільяшэвіч, Янка Золак, Міхась Кавыль, Уладзімер Клішэвіч, Рыгор Крушына, Алесь Салавей. Масей Сяднёў, празаікі Антон Адамовіч, Юрка Віцьбіч і іншыя. У выніку ўзьнікла задума, якая ўвасобілася ў кнігу «Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа», якая выйшла ў 2001 годзе...

Пісьменьнікі замежжа адкрылі шмат цікавых тэм у параўнаньні зь літаратурай, якая развівалася пад мэтадам сацрэалізму. Пісьменьнікаў замежжа най-

У сэрыі «Беларускі кнігазбор» мне ўдалося выдаць восем аўтараў, у тым ліку Масея Сяднёва, Вольгу Іпатаву, Лідзію Арабей, Сяргея Грахоўскага, Аляксандра Надсана, а таксама кнігу, якая называецца «Расстраляная літаратура». Цяпер у нас існуе агульная літаратура, куды таленавітым і залатым патокам улілася літаратура беларускага замежжа".

**Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе шаноўную юбілярку і жадае сп. Лідзіі новых плённых здабыткаў у справе папулярызацыі літаратуры беларускага замежжа і далейшай актыўнай дзейнасьці ў ЗБС "Бацькаўшчына".**

**Да ўвагі бацькоў беларускіх сем'яў**

***Бруклінскі аддзел БАЗА і Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага***

**ЗАПРАШАЮЦЬ ДЗЕТАК І ІХ БАЦЬКОЎ**

**на заняткі па вывучэньні роднай мовы і багатай духоўнай спадчыны беларускага народа ў нядзельную школу, якая будзе працаваць пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага *(401 Atlantic Ave, Brooklyn, NY).***

*Усіх зацікаўленных просьба зьвяртацца на адрас электроннай пошты:* **160280lena@gmail.com**

## Падзяка

Вельмі хочацца падзякаваць моладзі, якая актыўна падтрымала ідэю тэатралізаванай пастаноўкі, прысьвечанай 95-угодкам Слуцкага Збройнага Чыну, і стала галоўнаю сілаю, якая прывяла мастацкі млын у рух.

Дзякуй Сьвятлане Казачок, Дзмітрыю Кавалёву, Максіму Кучынскаму, якія адразу падтрымалі ідэю і паказалі сваё майстэрства на высокім узроўні. Дзякуй нашай паважанай госьці Настачцы з Варшавы, якая адгукнулася на просьбу і так непараўнальна выканала сваю ролю. Дзякуй нашым аматарам-акторам Алегу Кавалёнку, Сашу Каленікаву, Славе Сурынту, Дзіане Мараковай, якія ўнесьлі сва пачуцьці ў непаўторнае чытаньне і дабавілі густу імпрэзе. Дзякуй дзяўчатам Алене ды Вользе Талатынік, якія гасьцявалі прысутных смачнымі беларускімі стравамі і напоямі.

Мы не засталіся без дапамогі старэйшых, якія дапамагі каштоўнымі парадамі і касьцюмамі; падзяка належыцца – Тацьцяне Красоўская, Васілю Кузменка, Уладзімеру Цяліцы.

Удзячная таксама Віталю Пузачу, без якога немагчыма было падключыць і настроіць тэхнічныя прылады.

Асабістая падзяка ад мяне, як ад рэжысёра, майму неафіцыйнаму (бо ён занадта сьціплы) асістэнту, які быў заўсёды гатовы дапамагчы ў любой складанасьці, зьвязаной з падрыхтоўкай, і які з віртуозай лёгкасьцю знаходзіў найлепшае выйсьце – Дзмітрыю Кавалёву!

***Натальля Федарэнка,***
*сябра Управы Бруклінскага аддзелу БАЗА*

# Віншаваньні

*Парафіяльная рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью-Ёрку і Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА* **сардэчна віншуюць са слаўным 60-гадовым юбілеем ад дня народзінаў айца Міколу Шчэрбу**

Жадаем а. Міколу добрага здароўя, далейшых посьпехаў у справе умацаваньня нашай царквы і падтрымкі беларускага жыцьця ў Амэрыцы, асабістага шчасьця і доўгага плённага жыцьця.

**Сябра Вашынгтонскага гуртка БАЗА Тацьцяна Працька 8 лютага сьвяткавала Дзень народзінаў.**

*Тацьцяна! Жадаем з радасьці нагоды*

*Здароўе мець,*
*са шчасьцем быць,*
*Не знаць бяды, жадаем згоды,*
*Да ста гадоў Вам*
*зычым жыць.*
*Няхай заўсёды Бог абараняе*
*Ад зла, хваробы і журбы*
*І ласку шчодра пасылае*
*І сёньня, заўтра і заўжды.*

***Сябры Вашынгтонскага гуртка БАЗА***

**На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Люба Бахар, Галіна Бахар-Гайда | $ 150 |
| Томас Бёрд | $ 50 |
| Сільвестр Будкевіч (Англія) | англ.фунт 40 |
| Кастусь Варабей | $ 15 |
| Аляксандр і Сьвятлана Кот | $ 60 |
| Уладзімір Караткевіч | $ 50 |
| Віталь Каток | $ 50 |
| Елізавета Літаровіч | $ 100 |
| Элеанора Норык | $ 50 |
| Наталія Палавікова | $ 50 |
| Святлана Пехцерава | $ 50 |
| Андрэй Пушкароў | $ 50 |
| Галіна Руднік (Германія) | $ 100 |
| Сяргей Пятровіч | $ 50 |
| Яўген Папкоў | $ 50 |
| Сяргей Сарагавец | $ 50 |

**Вельмі дзякуем усім ахвярадаўцам!**


БЕЛАРУС
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
BIELARUS
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by Belarusan American Ass'n, Inc.

СКЛАД РЭДАКЦЫІ:
Адказны рэдактар **Ганна СУРМАЧ** surmacova@gmail.com
Скарбнік, арганізатар падпіскі **Таня КРАСОЎСКАЯ** premiere718@yahoo.com
Рэдактарка дзіцячай старонкі **Галіна ПАДЛЕСКАЯ** galinapodles@hotmail.com
Адказная за рассылку газэты **Натальля СТАРАВОЙТАВА**


Паштовы адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**
Электронны адрас (E-mail): **bielarus@bazahq.org**
Камп'ютарная вёрстка **Mikalai Media Productions**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*
*Грашовыя чэкі выпісываць на імя:* ***BIELARUS Newspaper*** *і дасылаць скарбніку на паштовы адрас Рэдакцыі.*
***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***